# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 42 (712) 19 кастрычніка 1969 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### СУПРАЦОЎНІЦТВА З ДОМАМ САВЕЦКАЙ КУЛЬТУРЫ

Беларускае таварыства даўно ўжо супрацоўнічае з Домам савецкай культуры ў Варшаве. Перш за ўсё трэба сказаць аб тым, што мы атрымоўваем адтуль бясплатна савецкія фільмы і дэманструем іх у памяшканні ГП БГКТ у Беластоку, а таксама ў вёсках і школах у раёнах паасобных аддзелаў.

4 кастрычніка старшыня і сакратар Галоўнага праўлення БГКТ Міхась Хмялеўскі і Янка Зенюк, а таксама штатны працаўнік Варшаўскага аддзела Віктар Швед наведалі Дом савецкай культуры і былі прыняты там намеснікам дырэктара Дома культуры Аляксандрам Смаляновым і дырэктарам існуючай там бібліятэкі Раманам Чысцяковым. У сардэчнай размове дагаварыліся мы, што бібліятэка Дома савецкай культуры дапаможа нам забяспечыць патрэбнай беларускай літаратурай тры ліцэі (Бельскі, Гайнаўскі і Міхалоўскі), у якіх вывучаецца беларуская мова і літаратура і ў якіх адчуваецца недахоп прадбачаных праграмай паасобных твораў беларускіх пісьменнікаў. Узгоднена таксама, што ў Доме савецкай культуры Варшаўскі аддзел 22 лістапада арганізуе ўрачысты вечар прысвечаны 25 гадавіне Народнай Польшчы і 52 гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

### У ГАРАДСКІМ АДДЗЕЛЕ

Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку, які працуе пад старшынствам Кастуся Масальскага, у фабрыцы прылад і ўхвытаў арганізаваў фотавыстаўку з жыцця Савецкай Беларусі. Наладжана ўжо супрацоўніцтва з гарадскім праўленнем ЗМС, таварыствам Паўшэхных ведаў, клубам будаўнікоў і аддзелам культуры гарадской рады нарадовай. Ад 1 кастрычніка пры гарадскім аддзеле распачаў працу Паўшэхны ўніверсітэт. Лекцыі тут чытаюцца кожную сераду. Першая лекцыя была на тэму: «Як узнікла і фармавалася беларуская мова». Чытаў лекцыю — дырэктар беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім Мікалай Гайдук.

### У ГАЙНАЎЦЫ

На апошнім пасяджэнні Прэзідыум Гайнаўскага аддзела БГКТ прааналізаваў працу свайго мастацкага калектыву. Сцверджана, што ўзровень харавога калектыву абнізіўся толькі з-за таго, што параўнальна часта змяняліся дырыжоры хору, а ў апошнім часе зусім не было мастацкага кіраўніка. Прэзідыум рашыў прыняць новага дырыжора. З'яўляецца ім Міхась Кісялеўскі.

Прааналізаваўшы ўмовы працы свайго аддзела, прэзідыум пастанавіў дабіцца таго, каб праўленне аддзела ў Доме настаўніка атрымала большае памяшканне, бо існуючае зацеснае.

### ПАДРЫХТОЎКА ДА ПЛЕНУМА

У лістападзе адбудзецца пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ на тэму: «Заданні таварыства ў святле пастаноў V з'езда ПАРП і VI з'езда БГКТ». У сувязі з гэтым прэзідыум ГП прыступіў да падрыхтоўкі матэрыялаў на пленум.

### З ПЛАНАЎ ПРАЦЫ АДДЗЕЛАЎ

Міхалоўскі аддзел у сваім плане працы да канца гэтага года між іншым арганізуе нараду старшынь гурткоў БГКТ. Прэзідыум Мілейчыцкага аддзела пастанавіў абмеркаваць наступную тэму: «Як рэалізуецца пастанова IX пленума ЦК ПАРП у беларускім асяроддзі». Бельскі аддзел арганізуе нараду выкладчыкаў беларускай мовы ў пачатковых школах. (мх)



Жылі мастакі ў прыгожай новай гасцініцы «Іва», збудаванай на месцы даўняга царскага палаца на маляўнічым узгорку над рэчкай Нараўкай. На балконах гасцініцы адразу мастакі экспанавалі свае карціны. («Чалавек і прырода». стар. 3).




Сельская гаспадарка з'яўляецца асновай эканомікі Беластоцкага ваяводства. Такая ёсць праўда, такі гістарычны лёс нашай роднай Беласточчыны. Неабходна тады, каб сельская гаспадарка Беластоцкага ваяводства вышэй узняла свае парусы.

Дзеля гэтага трэба добра падрыхтаваных, адукаваных людзей — афіцэраў прагрэсу ў сельскай гаспадарцы.

Улады — гэтыя ў Варшаве і гэтыя ў Беластоку — ужо зразумелі і ўлічылі ў свае планы гэтую неабходнасць. Для прыкладу: на працягу 25 год існавання народнай улады на патрэбы сельскагаспадарчай асветы адвялі яны амаль 300 мільёнаў зл. Аднак мала было гэтых грошай! Бо вось толькі на гэтую пяцігодку прадбачваецца выдаць на патрэбы сельскагаспадарчай асветы дакладна 308 мільёнаў зл. Калі ласка параўняйце два гэтыя лікі і час, у якім яны пераўтварацца на новыя школьныя гмахі, інтэрнаты, лабараторыі, машыны і іншыя школьныя прылады. Гэтае параўнанне найлепш адлюстроўвае імкненні ўлад.

Пабудова і абсталяванне сельскагаспадарчых школ каштуе вельмі дорага. Адзін школьны аб'ект гэтага тыпу «паглынае» больш-менш 20 мільёнаў зл. Дагэтуль пабудавана 10 такіх школ.

Некаторыя з іх журналісты з Беластока мелі аказію нядаўна наведаць. Вось тэхнікум у мясцовасці Ваеводзін у Граеўскім павеце. Гэта проста палац навукі! Прасторныя, светлыя, шматпавярховыя гмахі, у якіх размясціліся дасканала абсталяваныя школьныя залы, самыя розныя спецыялістычныя кабінеты, у якіх выгодныя столікі і мяккія крэслы, святліцы з кінафільмовай устаноўкай, з радыётэхнічнай апаратурай, з тэлевізарамі, інтэрнаты з даволі прасторнымі пакойчыкамі, у якіх жыве па чатырох вучняў.

Былі з намі людзі, якія пакончылі вышэйшыя сельскагаспадарчыя школы. Яны знатакі гэтай справы. Глядзелі і зайздрасць малявалася на іх тварах. Гаварылі: так багатага абсталявання, так выгодных умоў для навукі мы не мелі ў вышэйшых школах.

І гэта ўсё для дзяцей усіх нашых сялян, тых дзяцей, якія толькі сваю будучыню хочуць спалучыць з сельскай гаспадаркай. Кожны вясковы хлапец ці вясковая дзяўчына з Беластоцкага ваяводства можа паехаць у Ваеводзін і прыступіць да ўступных экзаменаў. Калі толькі ўзровень ведаў дазволіць яго ці яе прыняць, знойдуцца месцы ў гэтым прыгожым інтэрнаце і ў каштоўна абсталяваных класных залах і кабінетах. Зубны школьны лекар будзе наглядаць, каб ім не дакучаў боль зубоў, а лекар-інтэрніст будзе сачыць за іх агульным здароўем. Маюць яны ў школе свае кабінеты. У свабодны час ад навукі і іншых заняткаў можна сабе пашпацыраваць па прасторнай школьнай пляцоўцы, на якой тратуарныя дарожкі ўюцца сярод кломбаў руж і іншых кветак.

Зараз за школьнай агарожай — настаўніцкі асабняк для 15 сем'яў. Тут таксама, як і ва ўсіх іншых будынках, цэнтральнае абаграванне, халодная і цёплая вада, ванныя пакойчыкі... Высокі, гарадскі стандарт.

Ваяводзінскі тэхнікум рыхтуе спецыялістаў для гаспадаркі на сенажацях. Будуць яны абслугоўваць меліярацыйныя машыны, сеяць высокаякасную траву і дбаць, каб змеліяраваная сенажаць заўсёды давала сена найлепшай якасці. Вучацца тут таксама будучыя аграномы і агратэхнікі. Выводзяцца яны з усіх паветаў Беласточчыны.

Працяг на стар. 4




Сёння хачу заняцца тымі маладымі, якія ў чэрвені гэтага года атрымалі найвышэйшае давер'е грамадства — атрымалі мандаты радных. Найбольш іх у грамадскіх радах нарадовых, а ў сувязі з гэтым будзе гутарка аб вясковай моладзі.

Для кіравання працай маладых радных Саюз вясковай моладзі паклікаў спецыяльныя калектывы. Такі калектыў маладых радных існуе пры Ваяводскім праўленні ЗМВ у Беластоку, якім кіруе шматгадовая радная і маладзёжны дзеяч **Гертруда Орляч.** Паклікана павятовыя калектывы маладых радных ЗМВ.

Першапланавым заданнем маладзёжнай арганізацыі была справа азнаямлення ўсіх маладых радных, а асабліва тых, якія першы раз, з правам і заданнямі раднага. Гэткая справа выступіла, напрыклад, на першай сустрэчы маладых радных у Гайнаўцы. Некаторыя з іх дапытваліся, напрыклад, ці маюць права затрымліваць матацыклістаў, якія вельмі хутка ездзяць па вёсцы. Справа простая тым, хто ведае, які павінен быць парадак справы, але маладым радным трэба гэта дастаткова ясна пераказаць, навучыць. Гэта важная задача маладзёжнай арганізацыі, але не адзіная.

Асноўная справа — навучыць маладых прыймаць удзел у вырашанні спраў грамады ці павета. Каб малады вясковы радны бачыў аб'ём спраў, якія, на яго думку павінны аналізавацца, над якімі трэба дыскутаваць і ўносіць у праграму.

Так, як гэта бачыць прыкладна радны ПРН у Лапах А. Срэдзінскі: камасацыя зямлі, пабудова дарогі Рынкі — Лешна, доследныя палеткі, як спосаб павелічэння ўраджайнасці з гектара. У асяроддзі Срэдзінскага ўжо 10 маладых людзей закончыла навуку ў ПР-ах і ўсе яны працуюць на гаспадарцы. Мала таго, кожны з іх мог бы ўжо купіць самаход, але вырашана справу так: спярша трэба пакрыць дом, «перасыпаць» хлявы ці клуню, а потым завешваць тэлевізійную антэну. У раднага Срэдзінскага ў мінулым годзе азімая пшаніца дала 50 цэнтнераў з гектара. Срэдзінскі, як чалавек вёскі, лічыць, што ў нас падатковая прагрэсія не вельмі спрыяючая для сельскай гаспадаркі, таму што гаспадар незалежна ад колькасці асоб у сям'і плаціць падатак ад цэлага ліку даходу, калі ў горадзе кожны плоціць ад сябе.

Над прыкладам Срэдзінскага развёўся я таму доўга, што ён у нейкай меры з'яўляецца і тыповым, і дае пэўны прыклад маладога дзеяча вёскі.

Ці ёсць база для шырокай дзейнасці маладых? Ёсць. У Беластоцкім існуе 50 тыс. членаў ЗМВ, з чаго 23 тыс. гэта дзяўчаты, каля 28 тыс. моладзі знаходзіцца на гаспадарцы, 2,5 тыс, маладых — гэта самастойныя гаспадары, 1.200 — гэта трактарысты і механізатары, каля 1.200 членаў ЗМВ — гэта настаўнікі, а 8 тыс. — моладзь сярэдніх

Працяг на стар. 4



Восень у Беластоку.

Фота Цаф — Сянько.

# ◇ Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### ВІЗІТ У АЛЖЫРЫ

Ад 6 па 10 кастрычніка 1969 года адбываўся візіт дружбы ў Алжыры старшыні Рады Дзяржавы, Маршала Польшчы Мар'яна Спыхальскага, які прабываў там па запрашэнню старшыні Рэвалюцыйнай Рады Алжырскай Народнай Дэмакратычнай Рэспублікі Гуары Бумедзьена.

Пасля вяртання ў Варшаву старшыня Рады Дзяржавы між іншым сказаў: «Наш візіт у Алжыр быў добрым візітам. Перш за ўсё хацелася б падкрэсліць дружалюбную атмасферу, у якой адбываўся. Мы сустрэліся з вялікай маніфестацыяй алжырска-польскай дружбы, якую падкрэслівалася на кожным кроку на працягу ходу ўсяго візіта і багатай яго праграмы. У нашых размовах аб міжнародных справах мы мелі збежныя погляды ў такіх пытаннях, як супольнае супрацьдзеянне імперыялістычным сілам у абароне бяспекі, міру, свабоды народаў, паступовага іх развіцця ў напрамку народнай дэмакратыі і сацыялізма».

### ФРАНЦЫЯ — СССР

Прэзідэнт Францыі Ж. Пампіду прыняў запрашэнне Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. Падгорнага, каб зрабіць візіт у Савецкі Саюз. Візіт французскага прэзідэнта адбудзецца ў 1970 годзе. Дакладнай даты яшчэ не вызначана.

Прабываючы ў СССР міністр замежных спраў Францыі М. Шуман запрасіў міністра А. Грамыку, каб ён зрабіў візіт у Францыі на пачатку 1970 года.

### ТРАГЕДЫЯ НА СУМАТРЫ

Інданезійскі востраў Суматра перажывае зараз трагедыю. Звесткі, якія даходзяць да нас з Джакарты, сведчаць аб тым, што на гэтым востраве каля 500 людзей знаходзіцца перад немінучай смерцю, якая ёсць толькі справай часу. Гэты раён ад 12 жніўня г.г. з'яўляецца забароненай зонай з прычыны эпідэміі халеры.

### ПЛАНЫ «МАСКВІЧА»

Маскоўскі аўтамабілевы завод, дзе прадукуюцца папулярныя Масквічы, генеральна разбудоўваецца і рэканструецца.

У выніку гэтай разбудовы прадукцыя аўтамабіляў Масквіч у бліжэйшых гадах падвоіцца і асягне 200 тысяч штук у год.

### НАРКОТЫКІ

Афіцыяльныя статыстыкі сцвярджаюць, што ў Францыі сярод моладзі ёсць 30.000 наркаманаў.

У Парыжы, напрыклад, у час сёлеташніх канікулаў збіралася моладзь ва ўсялякіх месцах, каб пазнаёміцца з сапраўднымі таямніцамі містыкі і свету, дзе курыла «патыкі гашу» (папяросы змяшчаючыя мірагуану або гашыш).

### «САЮЗ — 6—7—8» НА АРБІЦЕ

У мінулым тыдні Савецкі Саюз вывеў на арбіту Зямлі 3 спутнікі «Саюз—6», «Саюз—7», Саюз—8» з 7 касманаўтамі.

**А. К.**



## БССР

### ГДР

Урачыстым сходам з удзелам кіраўнікоў партыі і ўрада Беларусі адзначана 20 гадоў Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі (ГДР).

У беларускай сталіцы адкрыта выстаўку тавараў шырокага спажывання ГДР. Ва ўрачыстым адкрыцці яе меў прамову міністр мясцовай і харчавой прамысловасці ГДР Эрхард Крак.

Выстаўку наведалі: першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі П. Машэраў, Старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Кісялёў, першы сакратар ЦК камсамола Беларусі Г. Жабіцкі.

### КПЧ

Тры дні ў Беларусі знаходзілася дэлегацыя партыйных работнікаў Камуністычнай партыі Чэхаславакіі (КПЧ). Дэлегацыю ўзначальваў загадчык сектара эканамічнага аддзела Бюро ЦК КПЧ Міраслаў Белаглавек. Госці знаёміліся з пытаннямі партыйнага кіраўніцтва капітальным будаўніцтвам.

### ПАСТАЯННАЙ

Пад старшынствам дэпутата М. Барадзіча адбылося пасяджэнне Пастаяннай камісіі па бытавому абслугоўванню насельніцтва Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Разгледжана пытанне аб ходзе выканання калектывамі прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання насельніцтва сацыялістычных абавязацельстваў. З дакладам выступіла намеснік міністра бытавога абслугоўвання насельніцтва Беларускай ССР В. Мацюшка, з судакладам — дэпутат С. Жукоўскі.

Вартасць абавязацельстваў — 1,7 мільёна рублёў.

### САРАКАГОДДЗЕ

Дзіцячая беларуская газета «Піянер Беларусі» адзначае сваё саракагоддзе. Намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР І. Клімаў уручыў газеце Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета БССР.

### РАСІЙСКАЙ

На працягу пяці дзён адбываліся ў Беларусі літаратурныя вечары пісьменнікаў з Расійскай Федэратыўнай Савецкай Рэспублікі. Ва ўрачыстым сустраканні пісьменнікаў Расіі ўдзельнічалі літаратары Беларусі, кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў: першы **сакратар праўлення Саюза Максім** Танк, сакратары праўлення Іван Шамякін, Пімен Панчанка, Іван Мележ, Янка Брыль, Мікола Ткачоў.

### ГАНАРОВАЙ

Брэсцкая абласная газета «Заря» і гродзенская абласная газета «Гродзенская правда» за свае заслугі і ў сувязі са сваім трыццацігоддзем узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

У ліку ўзнагароджаных раёнавыя газеты: баранавіцкая — «Знамя коммунизма», лідская — «Уперад», маладзечанская — «Святло камунізма», пінская — «Полесская правда», глыбоцкая — «Шлях перамогі», нясвіжская — «Чырвоны сцяг», навагрудская — «Новае жыццё», слонімская — «За перамогу камунізма». (ся)



## ПОЛЬШЧА

### 25-ГОДДЗЕ

7 кастрычніка ў Кангрэсовай зале Палаца культуры і навукі ў Варшаве адбылася ўрачыстая акадэмія прысвечаная 25-годдзю паклікання да жыцця грамадзянскай міліцыі і службы бяспекі. Падчас урачыстасці з прамовамі выступілі: намеснік члена Палітбюро, сакратар КЦ партыі Мечыслаў Мочар і міністр унутраных спраў Казімеж Світала.

Тав. Мечыслаў Мочар падкрэсліў вялікую ролю грамадзянскай міліцыі і службы бяспекі ў абароне здабыткаў сацыялізма ў нашай краіне. Звярнуў ён увагу на дыверсійную дзейнасць розных цэнтраў варожай прапаганды, а перш за ўсё Вольнай Еўропы. «Варта памятаць, — сказаў ён, — што Вольная Еўропа надалей будзе падтрымлівацца між іншым і ворагамі з нашай краіны, якія здрадзілі або маюць намер здрадзіць Польшчу. Сваю нянавісць да краіны, да сацыялізма, да нас камуністаў будуць яны прадаваць Вольнай Еўропе. А тая напэўна выкарыстае іх уласцівым сабе спосабам. Але.. сабака брэша, а караван ідзе наперад».

Працаўнікі службы бяспекі і міліцыі павінны пільна сачыць за ўсімі намерамі ворагаў Народнай Польшчы. Павінны яны заўсёды быць раней там, дзе вораг мае намер прысці і нам пашкодзіць.

«Я пераконаны, — сказаў у заканчэнні тав. М. Мочар, — што зробіце вы ўсё, каб абараніць нашае грамадства перад рознымі антыдзяржаўнымі элементамі».

Міністр Казімеж Світала ў сваім выступленні падкрэсліў неразрыўную сувязь 25-гадовай гісторыі грамадзянскай міліцыі і службы бяспекі з гісторыяй Народнай Польшчы. Звярнуў увагу на дапамогу з боку Савецкага Саюза ў перыяд вострай палітычнай барацьбы за народную ўладу ў Польшчы. Указаў на неразрыўную сувязь актыву грамадзянскай міліцыі і службы бяспекі з шырокімі масамі, а перш за ўсё з рабочым класам. Гісторыя нашага апарату, — сцвердзіў міністр, — яго народнае паходжанне рашуча ўдарае ў антыкамуністычную прапаганду, якая стараецца падтрымліваць тэзіс, што быў ён народным масам накінуты звонку.

Характарызуючы размеры барацьбы за народную ўладу міністр К. Світала прывёў некалькі лікаў. У 1944—1948 гадах рэакцыйнае падполле арганізавала звыш 54 тысяч варожых актаў, узброеных нападаў на гаспадарчыя аб'екты, органы ўлады і паасобных дзеячаў. У барацьбе загінула каля 12 тысяч членаў грамадзянскай міліцыі, службы бяспекі, ОРМО, КБВ і ВОП. Ліквідавана каля 3 500 розных бандыцкіх груп і падпольных арганізацый. адабрана звыш 100 тысяч экземпляраў рознай зброі.

У заканчэнні свайго выступлення міністр Унутраных спраў заявіў, што грамадзянская міліцыя і служба бяспекі выканае кожнае заданне, якога патрабаваць будзе справа сацыялізма і неразрыўна з ёю звязанае дабро нашай айчыны. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ДЗЕНЬ ВОЙСКА

З нагоды 26 гадавіны гістарычнай бітвы пад Леніна ў Беластоку адбылася ўрачыстасць па прысваенню вышэйшых афіцэрскіх чынаў прафесіянальным афіцэрам і афіцэрам запаса. Адбылося таксама ўрачыстае пасяджэнне прысвечанае Дню Людовага Войска Польскага.

### ЮБІЛЕЙ ЛАК

Масавая грамадска-палітычная арганізацыя — Ліга абароны краіны — ўрачыста адзначала 25-годдзе свэёй дзейнасці на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства. Зараз у радах гэтай арганізацыі згуртоўваецца на Беласточчыне звыш 80 тысяч членаў. ЛАК праводзіць багатую дзейнасць. Для прыкладу: працы выкананыя ў мінулым годзе грамадскім чынам членамі ЛАК ацэньваюцца на 7 мільёнаў злотых.

Ва ўрачыстым пасяджэнні, якое адбылося ў Беластоку з нагоды 25 гадавіны ЛАК, між іншым прынялі ўдзел І сакратар ВК партыі А. Лашэвіч і намеснік старшыні Прэзідыум ВРН Р. Лазаровіч.

### НОВЫ СТАРШЫНЯ

10 кастрычніка адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта Аб'яднанага людовага стронніцтва, у якім між іншым прыняў удзел член Рады Дзяржавы, намеснік старшыні Галоўнага Камітэта ЗСЛь — Юзэф Озга-Міхальскі. Пленум выбраў старшынёй Ваяводскага камітэта ЗСЛь у Беластоку Тадэвуша Гоздка, які дагэтуль быў намеснікам дырэктара Дэпартамента ў Міністэрстве лясніцтва. Пленум сардэчна падзякаваў дагэтуляшняму старшыні Яну Рызнару за звыш 15-гадовую ахвярную працу ў людовым руху. Ян Рызнар перайшоў да працы ў Галоўным Камітэце ЗСЛь.

### МЭБЛЯ З ГАЙНАЎКІ

У першым паўгоддзі наступнага года пачне прадукцыю мэблевая фабрыка ў Гайнаўцы. Гадавая прадукцыя гэтай фабрыкі ацэньваецца на 250 мільёнаў злотых. Многа гайнаўскай мэблі павандруе за мяжу.

### ПЛАН

Вядома, што план наступнай пяцігодкі апрацоўваецца зусім новым метадам, выпрацаваным на II Пленуме ЦК ПАРП. Зараз завадскія камісіі рабочага самакіравання (КСР-ы) праводзяць апошнюю ўсебаковую абмяркоўку сваіх прадукцыйных магчымасцей на 1971/75 гады. Такім чынам план наступнай пяцігодкі складаецца ад «нізу» да «верху».

### 6 ТЫСЯЧ ГОД

Аказваецца, што на тэрыторыі, дзе зараз знаходзіцца горад Беласток, ужо 6 тысяч год таму назад жылі людзі. Пацвярджае гэта знойдзеная нядаўна магіла з людскімі астанкамі і каменнымі прыладамі. На гэтую магілу ў сваім агародчыку натрапіў Ян Грыгарук з пасёлка Дайліды, а стагоддзе яе акрэсліла археолаг Данута Ясканіс. (зр)




**Niedziela, 19 października**

8.45 Program dnia. 8.50 TV Kurs Rolniczy: „Racjonalna gospodarka obornikiem". 9.25 „Przypominamy, radzimy". 9.35 „Soczi" — film radz. 9.45 „Spotkanie" — film („Stawka większa niż życie"). 10.45 „Przedstawiamy twierdzę w Budzie" (Budapeszt). 11.35 „Kronika 50-lecia Kraju Rad". 12.05 Dziennik. 12.30 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej o Mistrzostwo I ligi. Gwardia — Legia. W przerwie meczu — Losowanie Toto-Lotka. 14.00 „Przemiany". 14.30 „Czarodziejski ptak" — film radz. 14.50 PKF. 15.20 „Wielka gra". 16.15 „Polska zza siódmej miedzy". 16.45 Teatr Niedzielny: A. Fredro — „Gwałtu, co się dzieje". 17.45 „Klub Sześciu Kontynentów". 18.25 Kabaret „Dymek z papierosa". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Jazz Jamboree 1969". 21.10 „Jak zdobyć dziewczynę" — film fab. ang. 22.40 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 20 października**

14.25 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.35 „Echo stadionu". 17.55 „W Jasnej Polanie" — film radz. 18.20 „Eureka". 18.50 Dobranoc. 19.00 Uroczysty koncert z okazji otwarcia dekady Kultury Rosyjskiej Federacyjnej Socjalistycznej Republiki Radzieckiej. 20.00 Dziennik. 21.20 Teatr TV: A. Ostrowski — „Burza". 22.50 Dziennik.

**Wtorek, 21 października**

8.30 „Operacja Trust" — film fab. radz. cz. I. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „W Poroninie". 10.20 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. III lic. i XI) Język polski — K. Treniew „Lubow Jarowaja". 11.30 Przerwa. 12.00 „Wybieramy zawód". 12.20 Przerwa. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Wybrane zagadnienia prawne z budownictwa wiejskiego". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.30 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 „Slalom na wodzie" — film radz. 17.05 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Stawka — nowoczesność". 20.05 „Operacja Trust" — film fab. radz. cz. I. 21.55 „Rozmowy o książkach". 22.10 Dziennik.

**Środa, 22 października**

8.20 „Trzy plus dwa" — film fab. radz. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Insurekcja Kościuszkowska". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Gaz życia". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „O sile i jej mierzeniu". 12.25 Przerwa. 14.25 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.25 Program dnia. 16.30 „Setna rocznica urodzin Lenina" (Moskwa). 17.00 Dziennik. 17.10 Dla dzieci: „Pod znakiem żyrafy" — rep. film. z wakacyjnej zabawy. 17.30 „Nad Motławą i Newą" Gdańsk — Leningrad. 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Sylwetki X Muzy" — Ludwik Benoit. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Muzyka Renesansu" — X program („Słuchamy i patrzymy"). 21.05 „Światowid". 21.35 PKF. 21.45 Scena Monodram: E. Sniegiriow — „Dasz mi trzech synów". 22.25 Dziennik.

**Czwartek, 23 października**

8.15 „Matematyka w szkole": „Miara Jordana i pole w ujęciu elementarnym" cz. I. 8.45 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — „Ignacy Krasicki". 11.25 Przerwa. 14.25 i 22.40 Politechnika TV I roku. Chemia. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.55 TV Kurier Lubelski. 18.10 „Przegląd muzyczny". 18.45 „Nad Odrą i Bałtykiem". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Przypominamy, radzimy". 20.05 Teatr Sensacji: Andrzej Zbych — „W imieniu prawa" — I odc. pt. „Sztylet z monogramem". 21.05 „Dom na Młocinach". 21.50 „Natasza i ja" — film aktualności życia kulturalnego w Rosji. 22.20 Dziennik.

**Piątek, 24 października**

9.35 „Duszeńka" — film fab. radz. 10.55 Dla szkół: (kl. VII — VIII) Wychowanie obywatelskie — „Szkolne Kasy Oszczędności". 11.25 Przerwa. 14.25 i 22.35 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Aula" — sesja druga. 17.30 „Duch z Wyspy Mnicha" — film. 17.45 „Nie tylko dla Pań". 18.05 TV Kurier Mazowiecki. 18.20 „Postęp" — mag. 19.05 „Lektury współczesne". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: E. Szuster — „Zasadzka". 21.10 Tygodnik aktualności satyrycznych: „Przepraszamy za usterki". 21.25 „Dziś i jutro 100 tysięcy krawców". 21.50 „Skończony łotr" — nowela film. franc. 22.15 Dziennik.

**Sobota, 25 października**

8.15 „Dziennikarz" — film fab. radz. 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Biologia — „Paprotniki". 11.25 Przerwa. 14.20 Program dnia. 14.25 TV Kurs Rolniczy: „Wprowadzanie wyników badań naukowych do produkcji w gospodarstwach rolnych". 15.00 Program tygodnia. 15.20 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci". 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 „Tramp" — „W służbie Niebieskiego Krzyża". 17.15 Dla młodych widzów: „Konkurs 5 milionów". 18.15 „Pegaz". 18.50 „Świat, który nie może zginąć" — film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Kariera" — program rozrywkowy. Reż. — J. Gruza. 21.50 Dziennik. 22.00 Wiadomości sportowe. 22.10 Kino Interesujących Filmów: „Dziennikarz" — film fab. radz.




**Piątek, 17 października**

8.00 Nowiny. 8.15 Przegląd TV. 10.00 Dla uczniów. 10.30 „Cuda przyrody". 11.00 „Wesołe miasteczko". 14.55 Program dnia. 15.00 „Panorama nowin". 15.15 Program poświęcony wyzwoleniu Ukrainy. 20.30 Program młodzieżowy. 21.30 Nowiny.

**Sobota, 18 października**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 „Smacznego!" 9.00 „Komuniści Mińska uczą się". 9.30 „Szkatułka muzyczna". 9.40 Przegląd międzynarodowy. 10.00 Koncert życzeń. 10.40 „Białe i czarne". 11.00 „Nauka i jej rola w życiu społeczeństwa". 11.45 „Pojęcie kultury". 12.30 Nowiny. 13.00 „Moskwa — Ułan-Bator". 14.00 TV barwna. 17.00 TV atlas narodów. Tatarska ASRR. 17.30 „Przy płomyku". 18.45 Reportaż z sowchozu „Stara-Borysów". 19.30 „Tylko przyjemność". Film fab. 20.50 Program estradowy z Leningradu. 21.30 Nowiny.

**Niedziela, 19 października**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 „Zdrowie". 9.00 Koncert dla dzieci. 9.30 Mistrzostwa ZSRR w gimnastyce. Finał (mężczyźni). 12.00 Dla żołnierzy. 13.00 „Kalendarz TV". 13.30 Dla żołnierzy. 14.00 „Godzina wiejska". 15.00 Mistrzostwa ZSRR w gimnastyce. Finał (kobiety). 17.00 TV barwna. 18.00 W eterze „Młodość". 19.15 „Siedem dni". 20.00 O nowej strefie wypoczynku mieszkańców Mińska. 20.30 „Grenada". Film dokument. 21.40 „Tydzień sportowy". 21.55 Nowiny.

 

Новыя вершы

# Максім Танк

### ЖЫВЫ ЛЕНІН

Мы ўглядаемся
Ў партрэты Леніна.
Але найбольш жывы ён паўстае
У вобліку Радзімы нашай.

Таму часцей глядзіце на хлеб-соль,
На сталь, што выплаўляем,
На агні электрастанцый,
На трасы міжпланетных караблёў,
На славаю акрытыя сцягі,
На рукі, злучаныя непарыўнай дружбай,
На кнігі, поўныя святла і мудрасці яго,
На непаўторныя малюнкі дзетвары
З жывымі казкамі...

І калі слёзы радасці
На вочы набягуць —
Іх не саромцеся,
Глядзіце ў сонечную далячынь —
У будучыню нашу!

* ✲ *

Астролагі і розныя варажбіты
Прапанавалі будучыню прадказаць нам
З сузор'яў, з траў, з вады жывой і мёртвай,
Нібыта яна іншая магла быць,
Як будучыня нашае Радзімы —
Іншая, як яе палявыя сцежкі,
Шаршавыя мазольныя далоні,
Набраклыя крывёй і потам світкі,
Яе плугі, і косы, і штыкі,
Вясёлыя і сумныя напевы...
А будучыні нам другой не трэба!



### МАСКА

У музеі — маска паэта.
Акамянелая.
Абыякавая да ўсяго.
Разбіце або схавайце яе!
Ці ж вы не знаеце,
Што, калі б ён быў такі,
Напэўна, яшчэ жыў бы.

## РОДНАЯ ЛІТАРАТУРА

* ✲ *

Мне здалося, што ты мяне аклікнула.
Але гэта быў толькі голас ветру,
Не голас ветру — а спуджанай птушкі,
Не спуджанай птушкі — а соннай галінкі,
Не соннай галінкі — а кроплі расы,
Не кроплі расы — а далёкага рэха...

Але я ўсё роўна штодзень
Іду міма вокан тваіх,
Каб яго хоць яшчэ раз пачуць.

* ✲ *

Усе песні, апроч расстайных, сірочых, —
Жаданыя,
Усе чаркі, апроч налітых прымусам, —
Лёгкія;
Усе ночы, апроч самотных, бяздомных, —
Кароткія;
Усе рэкі, апроч тых, што плывуць на чужыне, —
Гаючыя;
Усе дарогі, апроч тых, што вядуць на пагост, —
Бясконцыя.

### ПЕСНІ НАРОДУ

Песні птушак,
Якія ў вырай лятуць,
Хмарамі робяцца;
Песні каляін
Зарастаюць травой,
Робяцца валунамі;
Песні агню,
Сустрэўшыся з ветрам,
Попелам робяцца...
Толькі песні народу
Застаюцца ў зямлі — зернем жыта,
У памяці — слязамі радасці,
У сэрцы — веснім сонцам.

* ✲ *

Трэба заўсёды ўзводзіць масты
З надзей,
Летуценняў
І песень.

Бо я калісьці
Перадаверыў быў
Жалезу, камню, дрэву.

І калі вярнуцца спрабаваў
Па маладосць,
Пакінутую недзе
На скрыпучых мажарах,
На бацькоўскай прызбе,
На барознах раллі, —
Усе масты былі знішчаны
Сякерамі марозаў,
Капытамі дажджоў,
Калёсамі грому,
Агнём.

# ЧАЛАВЕК І ПРЫРОДА

Пяты белавежскі пленер мастакоў можна ўжо смела назваць міжнародным. У гэтым годзе пяць еўрапейскіх краін прыймала ў ім удзел: акрамя Польшчы, Венгрыя, Літва, Францыя і Югаславія.

Пленер быў пашыраны таксама па прафесіянальнаму складу. Акрамя жывапісцаў, былі фатографы і крытыкі мастацтва.

Упершыню белавежскі пленер праходзіў пад канкрэтным лозунгам «Чалавек і прырода». І дзіўна, як моцна ў працах мастакоў праявіўся чалавек. Можна б сказаць, ён стаўся галоўнай тэмай пошукаў сёлеташняга белавежскага пленера, зразумела на фоне белавежскай прыроды.

У выніку пленера паўстала каля 160 карцін 39 мастакоў.

Наш фотарэпартаж з пленера даем на жыва. Працы яшчэ не ацэнены. У лістападзе будзе выстаўка ў Беластоку, будуць уручаны традыцыйныя пленеровыя медалі і ўпершыню ўзнагароды старшыні Ваяводскай і Гарадской рад нарадовых у Беластоку. (вл)

Фота Цаф — Сянько



**Перажыць... накінуць найперш вобраз. Такі пачатак карціны Антона Шымандюка з Беластока.**



**Дорота Лабаноўская з Беластока (камісарам пленера) ў час працы над новай карцінай.**



**Варштат працы, а ў глыбіні гатовая карціна Багдана Краснеўскага з Торуня.**



**Бадай адна з мацнейшых карцін сёлеташняга пленера: рукі, а потым пальцы жанчын раскольваюцца на мноства галін, з іх вырастае лес... Збоку аўтар карціны Ежы Лабаноўскі з Беластока.**




### Э. СМУЛКОВА АБ БЕЛАРУСКІМ СЛОЎНІЦТВЕ

Доктар Эльжбета Смулкова з'яўляецца выкладчыкам Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта і даследчыкам беларускіх гаворак Беласточчыны. Апублікавала яна на гэту тэму шэраг прац у розных спецыялістычных часопісах. Апошнім часам вышла з друку яе кніжка пад загалоўкам «Słownictwo z zakresu uprawy roli w gwarach wschodniej Białostocczyzny na tle wschodniosłowiańskim» (Слоўніцтва з галіны апрацоўкі зямлі ў гаворках усходняй Беласточчыны на агульнаславянскім фоне).

У кніжцы даецца падрабязны агляд дыялектных назваў паасобных сельскагаспадарчых прылад, сельскагаспадарчых работ і іх выканаўцаў, а таксама геаграфічнае размяшчэнне паасобных названняў і іх месца ў кантэксце ўсяе Славяншчыны. Аўтар кніжкі паставіла між іншым заданне прасачыць, на колькі мяжа беларускага слоўніцтва пакрываецца з мяжою беларускіх фанетычных структур. Даходзіць яна да вываду, што ў агульным плане межы гэтыя пакрываюцца, хаця мяжа лексічных беларускіх з'яў не з'яўляецца вострай. У многіх польскіх вёсках можна знайсці шмат беларускіх сельскагаспадарчых назваў і наадварот — у беларускіх вёсках сустракаецца многа назваў польскага паходжання. Найбольш польскіх слоў у беларускіх гаворках Э. Смулкова сцвярджае на поўнач ад Беластока і ў заходняй частцы адрэзка паміж Беластокам а ракой Нарвай.

Іншай праблемай, якую закранае аналізаваная кніжка, з'яўляецца ўнутраная неаднароднасць усходнеславянскіх гаворак Беласточчыны. Як вядома, гаворкі розных раёнаў усходняй Беласточчыны розняцца ў фаналагічным і марфалагічным плане. Э. Смулкова сцвярджае, што разрозненне гэтае існуе і ў слоўніцтве. Адрозьнівае яна тут два абшары: паўночна-ўсходні (характэрныя словы: сверэн, паліца, мякіна, гірса, валошка і г.д.) і паўднёвы (характэрныя словы: шпіхлер, откладня, палова, костэрэва, фаберка, або дворонінэць і г.д.). Такім чынам лексічнае адрозненне ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны супадае з адрозненнем фаналагічным і фалагічным. Э. Смулкова сцвярджае, што ўсе гэтыя ўнутраныя адрозненні гаворак Беласточчыны неразрыўна звязаны з адрозненнямі, якія існуюць на тэрыторыі БССР і паўночна-заходняй Украіны і з'яўляюцца іх заходнім прадоўжаннем.

У суме кніжка апрацавана надзвычай дбайна і карпатліва. Далучана да яе 55 картаў, на якіх размешчана ўсе аналізаваныя ў кніжцы лексічныя з'явы.

**У. Паўлючук**




**А.Чарнышэвіч, — Новы дом.** Апавяданні. Выд. «Беларусь», цана 2,80 зл.

**А. Лелявский, — Кукольный театр в школе.** Цана 3,00 зл.

У кніжцы напісанай на рускай мове знойдзеце адказы на такія пытанні: як сарганізаваць такі тэатр, як самім зрабіць ляльку, якую п'есу выбраць для лялькавай сцэны, як праводзіць рэпетыцыі і інш.

**«З рога ўсяго многа».** Беларускія народныя казкі. Выд. «Беларусь» 1968 г., цана 11,50 зл.

**К. Чэпэк, — Казкі і вясёлыя гісторыі.** Выд. «Беларусь», 1966 г., цана 4,60 зл.

**В. Вітка — Казкі,** цана 4,10 зл.

**М. Лужанін — Вершы.** Том 1 і 2, цана 16,20 зл.

**В. Хомчанка — Зімовы дождждык,** цана 1,50 зл.

**Беларуская народная казка — Пакаці гарошак,** цана 2,10 зл.

**Т. І. Звяровіч, М. Л. Гелер — Літаратурныя віктарыны.** Выд. «Народная асвета» 1967 г., цана 3,10 зл.

У кнізе змешчан цікавы, займальны матэрыял з жыцця, творчасці класікаў і сучасных беларускіх празаікаў і паэтаў, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, К. Крапівы, К. Чорнага, М. Лынькова, П. Броўкі, А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанкі, Я. Брыля, І. Мележа і інш. Ён дапаможа настаўніку ажывіць урок, папоўніць веды вучняў фактамі з жыцця і творчасці пісьменнікаў, правесці змястоўны літаратурны вечар.

Напамінаем, што вышэй пададзеныя кніжкі можна купіць у кнігарні **«Dom Książki», Białystok, ul. Kilińskiego 10,** асабіста або пры дапамозе пісьмовага заказу за паштовым залікам. Кніжкі гэтыя можна таксама заказаць у сваёй кнігарні, якая павінна іх запатрабаваць з Беластока ці Варшавы.

Усе водзывы і пажаданні кіруйце ў нашу рэдакцыю. (ак)

# „Веснік БДУ"

Вясной гэтага года выйшаў з друку першы нумар «Весніка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна». «Веснік» будзе выдавацца ў чатырох серыях:

Серыя I — матэматыка, фізіка, механіка. (На рускай мове). Інд. 74851.

Серыя II — біялогія, хімія, геалогія, геаграфія. (На рускай мове). Інд. 74852.

Серыя III — гісторыя, філасофія, эканоміка, права. (На беларускай мове). Інд. 74853.

Серыя IV — філалогія, журналістыка. (На беларускай мове) Інд. 75854.

Ужо першы нумар сведчыць аб зацікаўленні Мінскага навукова-дыдактычнага выдавецтва жыццём і дзейнасцю беларускага насельніцтва ў Польшчы. У першым нумары IV серыі змешчана даволі абшырная інфармацыйная рэцэнзія на артыкул мгр Любы Раманюк «Да гісторыі польска-беларускіх лексічных узаемасувязей». Аўтарам рэцэнзіі з'яўляецца малодшы навуковы супрацоўнік Кафедры беларускай мовы БДУ — Г. Пальцаў. мв



 

# МОЛАДЗЬ—МІЛІЦЫІ



З прамовай выступае госць, палкоўнік М. Судзілоўскі.



Сцяг у руках гайнаўскіх міліцыянераў сцяганосцаў.



Сцяг перад падраздзяленнем міліцыі.

На стадыёне «Пушчы» ў Гайнаўцы нядаўна адбылася вялікая ўрачыстасць. Месцы заняла тут амаль выключна моладзь. Прыйшлі сюды, каб уручыць Камэндзе міліцыі ў Гайнаўцы сцяг — сімвал падзякі за ахвярную службу, за мужнасць. Сродкі на сцяг збіралі рознымі спосабамі, выключаючы той адзін — «Тата, дай грошы на складчыну на...» Старэйшая моладзь працавала ў ОРП, пры пасадцы лесу, малодшыя — збіралі макулатуру, бутэлькі.

Пад гукі духавога аркестра КВ МО сцяг уручае I сакратар ПК ПАРП у Гайнаўцы **Аляксей Лазоўскі** ваяводскаму каменданту МО палкоўніку **Бернарду Нарэнгоўскаму,** а затым сцяг перaказваецца калоне гайнаўскай міліцыі.

Забірае голас А. Лазоўскі. Характарызуе ён працу органаў міліцыі і службы бяспекі ў апошнім 25-годдзі. На тэрыторыі Беластоцкага ваяводства загінула ў барацьбе з рэакцыяй каля 500 міліцыянераў і працаўнікоў службы бяспекі. Не мела спакою і грамадства Гайнаўскага павета. Банда «Бурага» спаліла тут вёску Залешаны. Сёння віднеюць таксама помнікі на месцах нападаў рэакцыі на насельніцтва ў Нараўцы і Кляшчэлях, дзе загінулі або змагаліся адважныя сыны нашага народа — працаўнікі міліцыі і службы бяспекі. Сёння ў змененых абставінах, пры змененых умовах трымаюць ахвярную службу, дбаюць, каб мы ўсе былі бяспечнымі, каб запэўніць максімальны парадак.

У гайнаўскай урачыстасці прыймала ўдзел дэлегацыя міліцыі з Гродзенскай вобласці з палкоўнікам **Міколам Судзілоўскім** і з Пружан Брэсцкай вобласці з **Міхасём Канавалавым** і **Уладзімірам Хвалько.**

На заканчэнне ўрачыстасці адбыўся парад падраздзяленняў МО, Войска Польскага, ОТК, санітараў і моладзі.

(ак)

# ЛУК'ЯНСКІЯ ДЗЕЦІ

Дзесяць гадоў таму назад яшчэ не кожнае дзіця ў Луцэ ішло ў школу абутае. Бачыў сам. Цяпер штораз больш бацькоў дбае аб тое, каб іх дзіця выглядала зграбна і культурна. Вядома, час робіць сваё, але не толькі час. Прыбылі новыя магчымасці заробкаў. Праўда, невялікіх заробкаў у мясцовай прамысловасці або рамястве, але пры гаспадарцы кожная залатоўка мае падвойную вартасць.

Вельмі добра, што людзі чуллівыя на выгляд і паводзіны сваіх дзяцей. Абыякавасць на гэтыя справы з боку бацькоў не так частая, як калісьці. Добрае выхаванне дзіцяці — гэта першая справа пасля хлеба, бо ад дзяцей пачынаюцца новыя якасці, новыя прывычкі будучага народа.

У Луцэ старая школа, стары будынак. Будынак настолькі стары, што не зусім аплачваецца рамантаваць яго ад фундаментаў, капітальна. Некалі ўлады мелі намер пабудаваць навюсенькую школу ў гэтай небагатай вёсцы. Цэлая справа, як кажуць людзі, разляцелася па іх, людзей, віне. Не далі пляца пад школу. І пабудавана яе ў суседніх Ляшуках, мураваную, досыць прыгожую. За добрых некалькісот тысяч.

У Луцэ будзе новая школа, пляц знайшоўся. Знайшліся ахвотныя — згодныя адступіць пляц пад школу. Будова пачнецца за некалькі гадоў, можа і хутчэй... Лук'янская школа характарызуецца тым, што ў ёй амаль увесь час аднолькавая колькасць вучняў, каля сто. Тыя, што канчаюць школу, ідуць вучыцца далей. Пераважна, у двух-трохгадовыя прафесіянальныя школы ў Гайнаўцы, Бельску, Міхалове, часамі ў Беластоку. Сярэднюю адукацыю лук'янская моладзь здабывае, можна сказаць, найчасцей у беларускіх ліцэях — таксама ў Гайнаўцы, Бельску, Міхалове. У тэхнікумах вучыцца мала. Зрэшты, дастацца ў тэхнікумы не лёгкая справа. Тым больш, вясковым дзецям. (ся)

### СТРАШАЎСКАЯ ЮНІЯ

Істотнай цяжкасцю ў развіцці культурна-асветнай дзейнасці ў нашых вёсках з'яўляецца недахоп святліц. Вельмі мала дзе ёсць яны.

Святліца ў Страшаве — гэта ўзор добрай работы. Кіруе ёю Зіна Лебядзінская. Кіруе грамадска, не для грошай, і гэта наймацней цэніцца. Наладжана вечаровы ўніверсітэт; хлопцы і дзяўчаты ўпарадкавалі пляц каля святліцы, адбываюцца цікавыя сустрэчы, талкуецца аб планах на будучыню. Будавалі дарогу ў Гарадок.

Сэрцам і мазгом дзейнасці моладзі страшаўскай з'яўляецца настаўніца Марыя Вярцінская. Яна арганізуе дзейнасць ЗМВ не толькі ў роднай вёсцы, але і ў цэлай ваколіцы. Нядаўна страшаўская юнія сабрала адну тысячу шэсцьдзесят пяць злотых на дапамогу паўстаўшаму В'етнаму.

У Страшаве добры калектыў ПР-у. Чатырнаццаць удзельнікаў. (ся)

### КАМАСАЦЫЯ НА КРЫНШЧЫНЕ

На землях Крынкаўскай грамадскай рады адбылася камасацыя зямлі. Дзякуючы камасацыі ліквідавана цераспалосіцу. У гэту восень гаспадары першы раз выйшлі араць свае новыя ўчасткі.

Геаметраў, што праводзілі тут камасацыю, можна пахваліць за добрую работу. Незадаволеных камасацыяй гаспадароў мала ў параўнанні да іншых ваколіц. (ся)

пеек. Прыблізна столькі каштуе чыгунка, ноч падарожжа. Самалёт Гродна — Масква таксама штодзень. Застаецца зайздросціць і ўласнай тэлестудыі, за кінатэатрам «Космас», направа ў полі. Увечары сустрэча на сярэбраным экране з тутэйшым кампазітарам, Шыдлоўскім, дырэктарам Дома народнай творчасці, што ля модназазоўнай Савецкай вуліцы. Добра бачная польская тэлевізія, прагнозы «Хмаркі» важныя.

Мае сыны, малагодкі, зайздросцілі заапарку: жарты, ад лебедзя і зубра па малпкі і слана, усё! Ай-ай. У нядзелю перад касай заапарка доўгахвостая чарга. І перад кіёскам з марожаным, што побач. За плячыма, за горадам, возера парукіламетравае, штучнае, на Бела-падобнай рэчаньцы, Юбілейнае, абсаджанае раздзявальнямі. Дваццаць мінут мітусні ў па-хлапцоўску шчуплай і беспардоннай «двойцы» (чатыры капейкі), два кіламетры нецярплівай хады маладнякамі за Фолюшам, і паміж дрэвамі ўжо лодкі на сіняй роўнядзі, бачыш водныя веласіпеды, пляжы і мясціны небам выбраны на кэмпінгі. Каякі не ў модзе, рай парусным лодкам (на Нёмане мо перад усім). У цяньках легкавыя машыны з беластоцкай рэгістрацыяй, ПДТ-аўскія пантоны і ўнівермагаўскія плыўкі, сінія. «Бікіні» фіялетавыя.

Сонца пячэ, сонца стагоддзя. Ажно Нёман знясіліўся.

**Сакрат Яновіч**

# АНКЕТА

Няма ўжо хіба на Беласточчыне такой вёскі, дзе не ведалі б нашага эстраднага калектыву «Лявоніха». Розныя аб ім склаліся думкі. Адны гавораць, што «Лявоніха» адстае ад жыцця і патрабуе мадэрнізацыі (напрыклад, выказваліся думкі стварыць з яе беларускае «No to co»), іншыя кажуць, што павінна яна заставацца такой, якой ёсць цяпер.

Каб ведаць шырэйшую апінію, ГП БГКТ аб'яўляе анкету п.з.

**Што вы думаеце пра «Лявоніху»?**

Гэта анкета павінна памагчы выбраць найбольш правільны напрамак для нашага заслужанага калектыву і дапамагчы яму зрабіць яшчэ большую вядомасць.

Прачытайце тады ўважна пытанні і дашліце на іх свой адказ. Сярод удзельнікаў анкеты будуць разлясаваны кніжныя і іншыя ўзнагароды.

— Як вы ацэньваеце дагэтуляшні напрамак «Лявоніхі»?

.....................................................

— Ці «Лявоніха» павінна быць такой, якой ёсць? . . .

— Чаму? . . . . .

.....................................................

— Ці «Лявоніху» трэба накіраваць у іншым напрамку? .

.....................................................

— У якім? . . . . .

.....................................................

— Чаму? . . . . .

.....................................................

— Колькі вам год? . .

.....................................................

— Ваш адрас: . . . . .

.....................................................

Калі палічыце патрэбным, можаце не абмяжоўвацца да вышэй змешчаных пытанняў і даць шырэйшы адказ.

Адказы трэба дасылаць у ГП БГКТ да 15 лістапада г.г. На канверце зрабіце дапісак «Анкета». Поўны адрас ГП БГКТ: Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Białystok, ul. Warszawska 11.




Усё часцей гаворыцца і пішацца аб тым, што ў сувязі з прагрэсам цывілізацыі гвалтоўна ўзрастае колькасць захворванняў на розныя псіхічныя і нервовыя хваробы. З другога боку праблема належнай апекі над псіхічнахворымі людзьмі ўсё больш выразна стае, як праблема гуманнасці і ўласцівых адносін да чалавека. Рэдакцыя «Нівы» звярнулася з некалькімі пытаннямі да дырэктара Ваяводскай амбулаторыі псіхічнага здароўя ў Беластоку доктара Станіслава Вроняка.

**— Пане доктар, ці ўзрост псіхічных і нервовых захворванняў датычыць і нашай Беласточчыны?**

— Гэта цяжка сказаць. Ведаем толькі, што ўзрастае колькасць пацыентаў у нашых амбулаторыях. Так, напрыклад, у Ваяводскай амбулаторыі псіхічнага здароўя ў Беластоку ў 1966 годзе лячылася 6847 чалавек, у 1967 годзе — 7275, а ў 1968 годзе — 7722 асобы. Не вядома, аднак наколькі ўзрост пацыентаў звязаны з фактычным пабольшаннем захворванняў, а наколькі вынікае ён проста з таго, што людзі больш зараз лечацца, чымсьці некалькі гадоў таму назад. Паказальнік псіхічных і нервовых захворванняў насельніцтва на Беласточчыне з'яўляецца аднак меншым, чымсьці ў прамыслова развітых ваяводствах, як, напрыклад, на Шлёнску.

**— А як справы з забеспячэннем лекарскай дапамогі норвова- і псіхічнахворым людзям на Беласточчыне?**

Не найгорш. Колькасць лекараў псіхіятраў у ваяводстве з году ў год пабольшваецца. Апрача Ваяводскай амбулаторыі, у паасобных паветах ваяводства працуе 14 павятовых амбулаторый. Прыёмы адбываюцца там пераважна раз у тыдзень, а вядуць іх лекары, якія даязджаюць з Беластока. Значна горшая справа з памяшканнямі. Мы не маем асобных памяшканняў. У большасці выпадкаў нервова- і псіхічнахворыя мусяць чакаць у пачакальнях разам з хворымі на ўсялякія іншыя хваробы. А гэта вельмі дрэнна,

**— Чаму?**

— Прыём псіхічна- і нервовахворых мусіць адбывацца ў атмасферы спакою і сакрэтнасці. Хворым, якія да нас прыходзяць, найчасцей вельмі залежыць на тым, каб ніхто са знаёмых аб гэтым не ведаў.

**— Значыць, хворыя саромеюцца, што лечацца ў псіхіятра.**

— Не толькі саромеюцца, але ў многіх выпадках проста баяцца. Асабліва тыя, якія працуюць у розных публічных установах. Хворыя часта не хочуць карыстаць са звальненняў з працы, хаця ім гэта належыцца, бо баяцца, каб у іх установе не даведаліся, што яны лечацца ў псіхіятра. Выклікана гэта дрэнным падыходам кіраўніцтваў паасобных устаноў да нашых пацыентаў. Бывае і так, што прыходзіць да нас пацыент з нейкім благім, лёгкім неўрозам, а праз некалькі дзён атрымліваем ад установы, у якой ён працуе, ліст з пытаннем, ці можа ён там увогуле працаваць. Іншым разам просім кіраўніцтва ўстановы, каб перанесла хворага на іншы лягчэйшы адрэзак працы, а яго тым часам ўвогуле звальняюць з работы. Зразумела, гэта паглыбляе хваробу, значна ўскладняе лячэнне і нішчыць зусім яшчэ здольных да працы і патрэбных грамадству людзей. У выпадку, калі сапраўды трэба пацыента зволніць з працы, мы самі робім у гэтым напрамку адпаведныя захады.

**— Гэта зразумела, датычыць пацыентаў, якія маюць крытычны падыход да свайго стану і ведаюць аб тым, што яны хворыя. Што аднак з псіхічнахворымі людзьмі, якія не ведаюць аб тым, што ім трэба ісці да лекара?**

— У гэтых выпадках справа яшчэ горшая. Хворых такіх абавязаны прыводзіць да нас члены іх сем'яў або іх апекуны. Не заўсёды аднак гэтак бывае. Часта не хочуць да нас звяртацца ні хворыя, ні іх апекуны. Робім, у такіх выпадках, што можам: высылаем, скажам, да іх па пошце запрашэнне. Але і гэта не заўсёды памагае. Прычыны бываюць розныя. У выпадку хворых з вёскі адной з іх з'яўляюцца між іншым кошты даездаў і лякарстваў. Чакаем на новую пастанову адносна лячэння псіхічнахворых, якая мае з аднаго боку знесці аплаты не толькі за лячэнне псіхічнахворых, але і за лякарствы, а з другога дазволіць лекару нават без згоды хворага ці яго апекуноў кіраваць яго на лячэнне ў бальніцу. Бо трэба ведаць, што многія псіхічнахворыя бываюць небяспечнымі для саміх сябе і свайго асяроддзя. Многіх з іх пры адпаведнай лекарскай дапамозе можна вярнуць да нармальнага, здаровага жыцця.

**— Што б вы раілі тым з нашых чытачоў, якія адчуваюць, што іх нервы і псіхічны настрой не зусім у парадку?**

— Як найхутчэй пайсці ў амбулаторыю псіхічнага здароўя. Не саромецца візіту ў псіхіятры. Яго дапамога можа ўратаваць ваша здароўе. І яшчэ адно: калі ў вашым асяроддзі знойдзецца наш пацыент, не глядзіце на яго адразу як на пагаворачнага «вар'ята». Нервовая ці псіхічная хвароба — гэта хвароба як і кожная іншая. Прытым у большасці выпадкаў хворыя могуць весці зусім нармальнае жыццё ў грамадстве і гэта ім можа толькі дапамагчы ў лячэнні.

Размову вёў
**У. Паўлючук**

# ТРЫБУНА чытачоў

## СПАБОРНІЦТВЫ ПАПЯРОВЫХ ЗМЕЯЎ




Аддзел Ваяводскай спажывецкай спулдзельні ў Бельску Падляшскім многа ўвагі прысвячае арганізацыі шматлікіх мерапрыемстваў для дзяцей. Да найцікавейшых мерапрыемстваў трэба аднесці спаборніцтвы папяровых змеяў. Пераможцы кожны год бяруць удзел у ваяводскіх і агульнапольскіх спаборніцтвах.

Нядаўна ў Бельску Падляшскім на спаборніцтвы папяровых змеяў сабралася 38 удзельнікаў. У катэгорыі скрынковых найлепшымі былі змеі Збышка Місеюка, Здзіслава Вярхоўскага і Кшыштафа Яжамбінскага. А ў катэгорыі плоскіх найбольш пунктаў атрымалі Шчэпан Дрэўноўскі, Здзіслаў Шауро і Кшыштаф Замараеў.

**Вол. Вес.**

## БУДЗЕ РАМІЗА І СВЯТЛІЦА

Дружнай калектыўнай працай можна многа зрабіць. Жыхары вёскі Дашы, што ў Гайнаўскім павеце, вырашылі грамадскім чынам прыступіць да пабудовы рамізы, пры якой будзе пабудавана таксама святліца. Забавязаліся яны выканаць палову працы грамадскім чынам.

**Я. Ц.**
**Дашы**

## ДРУЖЫНОВЫЯ

Каманда Гарцэрскага гуфца ў Бельску Падляшскім у верасні арганізавала трыднёвы ўступны курс для дружыновых-настаўнікаў, якія будуць весці працу ў гарцэрскіх дружынах у пачатковых школах. На курс прыбыло 60 асоб з Гайнаўскага, Сямяціцкага і Бельскага паветаў. Будучыя дружыновыя дакладна пазнаёміліся з напрамкамі дзейнасці гарцэрскай арганізацыі, з формамі працы ў дружыне, а таксама ў прысутнасці інспектара асветы Мар'яна Татарчука ўрачыста забавязаліся ахвярна працаваць.

**(В. Фол.)**

## СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ АСВЕТА

Кожны, хто працуе на гаспадарцы, павінен добра ведаць сучасную агратэхніку. У сувязі з гэтым усе жыхары вёскі павінны быць узброены ў сельскагаспадарчыя веды. А ўжо калі разыходзіцца аб моладзь, дык тут усё робіцца, каб кожны юнак ці дзяўчына была слухачом курсаў у калектыве сельскагаспадарчай падрыхтоўкі.

На Гайнаўшчыне зараз існуе 18 калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі першай ступені. Налічваецца там 227 асоб. Калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі другой ступені налічваецца 13 з 231 слухачом. 170 асоб вучыцца ўжо ў ПР-ах трэцяй ступені. Такіх калектываў налічваецца ў павеце 16.

**Віталіс Назарук**
**Гайнаўка**




**Дарагое Сэрцайка!**

Жыву на вёсцы. Я яшчэ перад войскам. Калі я вучыўся ў пачатковай школе, мне падабалася адна дзяўчынка. Было гэта, як кажуць, школьнае каханне. Так як і іншыя, пісаў ёй пісьмы, на якія яна не адказвала, а нават вершы. Але потым гэта прайшло. Пасля некалькіх год Аня вырасла на прыгожую дзяўчыну. Кожны хлапец у нашай вёсцы хацеў бы ёй спадабацца. І мне яна вельмі, вельмі падабаецца. Часта пра яе думаю. Пры сустрэчы мы гутарым ветліва, смяемся і гэта ўсё. Калі зайдзем на забаву, яна кожны танец танцуе. Я хацеў бы пасядзець з ёю, пагаварыць, даць ёй да зразумення, што яе кахаю. Аднак няма магчымасці, бо Аня кожны танец танцуе. А я не ўмею танцаваць. Зрэшты, не ведаю, ці не ўмею, ці мо не маю адвагі. Аднак не танцую. Які знайсці выхад, каб пабываць больш з Аняй, каб яна пабачыла, што я ёю вельмі зацікаўлены. Парай, дарагое Сэрцайка.

**Валодзя з Сакольшчыны**

**Валодзя!** Тады нічога іншага табе не выпадае, як навучыцца ці адважыцца, як ты пішаш, танцаваць. Бываюць хлопцы (дзяўчаты таксама, хоць рэдка) якія не танцуюць таму, што не хапае ім адвагі. Паспрабуй папрасіць Аню да танца. Можаш зрэшты патрэніравацца у хаце, каб быць больш пэўным. Аднак не варта пераймацца, усе танцуюць — адны лепш, другія горш. У тваім выпадку важна, каб быць з Аняй. Тады жадаю табе адвагі і добрых вынікаў.

**Сэрцайка**

## ШКОЛЬНІЦТВА

У Бельскім павеце за перыяд народнай улады пабудавана 41 школу. Працуе зараз на Бельшчыне 104 пачатковыя школы, два агульнаадукацыйныя ліцэі, педагагічны ліцэй, медыцынскі ліцэй і тэхнікум эканамічны. Моладзь вучыцца таксама ў трох засадні́чых прафесіянальных школах і чатырох школах сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. У верасні распачало навуку 15 тысяч вучняў.

Нягледзячы на тое, што шмат ужо зроблена ў галіне школьнага будаўніцтва, існуюць яшчэ і недахопы. У гэтым навучальным школьным годзе ў павеце школы карыстаюцца з 80 прыватных будынкаў.

Васьмікласных школ на Беласточчыне налічваецца 71. А гэтыя васьмікласныя школы распараджаюцца 41 майстэрняй і 116 класамайстэрнямі.

Зусім інакш выглядае справа са школьнымі дапаможнікамі. Амаль усе школы маюць сучасныя аўдыёвізуальныя матэрыялы, на якія асветныя ўлады не шкадуюць грошай, бо кожны год выдаюць на гэта больш 1 мільёна зл.

У пачатковых школах працуе зараз у Бельскім павеце 564 настаўнікі. Усе настаўнікі маюць памяшканні.

**Ф. В.**
**Бельскі павет**

## ЗМВ НА БЕЛЬШЧЫНЕ

У Бельскім павеце налічваецца 148 гурткоў ЗМВ (Саюза вясковай моладзі), у якіх — 3002 члены. ЗМВ вядзе шмат розных курсаў. Сёлета працавала больш 60-ці асветна-палітычных курсаў. Члены ЗМВ-у шырока разгортваюць сваю дзейнасць у 36 клубах і святліцах. Некаторыя з гэтых клубаў, як напрыклад у Боцьках і Страблі, адносяцца да перадавых у ваяводстве. З кожным годам прыбывае колькасць аматарскіх калектываў, у якіх члены ЗМВ займаюць вядучае месца. Такіх аматарскіх калектываў налічваецца 42. Да найлепшых адносяцца мастацкія калектывы з Пілік, Боцек і Паўлаў. Многія гурткі ЗМВ цесна супрацоўнічаюць з ЛьЗС і разам арганізуюць цікавыя мерапрыемствы. Кожны год у павеце працуе каля 40 калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, якія ў сваіх радах аб'ядноўваюць больш 500 членаў. ЗМВ вялікую ўвагу звяртае таксама на адукацыю моладзі, на неабходнасць заканчэння пачатковай школы, а пасля пашырэння сваіх ведаў у ПР-ах і СПР-ах.

**В. Фалькоўскі**
**Бельск Падляшскі**

## МАЛАДЗЁЖНАЯ СЛУЖБА РУХУ



**Падставовая школа № 3 у Бельску (беларуская) праз гурткі Маладзёжнай службы руху вядзе шырокае абучэнне дзяцей у галіне знаёмства з дарожным кодэксам. На здымку: практычныя заняткі з МСР.** **Фота Цаф — Сянько.**

## УВАГА, ВАЎКІ!

Многа гадоў не паяўляліся драпежнікі — ваўкі, якіх ахвярамі падае сялянская жывёла. Ад пачатку верасня г.г. паявіліся гэтыя драпежнікі ў ваколіцах між Заблудавам і Міхаловам. На працягу першай палавіны верасня ў Патоцы воўк разарваў адну авечку, а другую пакалечыў. Потым гэта зрабіў і ў Тапалянах і Малынцы. Варта, каб нашыя паляўнічыя зацікавіліся гэтай справай і выйшлі на паляванне.

**Мікола Краўчук**
**Патока**

## У ГРАМАДЗЕ ПАЛІЧНА

Жыхары грамады Палічна (Гайнаўскі павет) многа зрабілі грамадскай працай. Калі трэба было пабудаваць перон на прыпынку ПКП у Палічнай, жыхары не толькі з вёскі Палічна вазілі пясок і выконвалі ўсе нефаховыя працы. Грамадскім чынам абсаджана дрэўкамі мясцовую святліцу, зроблена прапусты вады на дарозе. Зараз будуецца дарога з Войнаўкі ў Старыну. Пры пабудове дарогі ахвярна працуюць Аляксандр Зінчук і Уладзімір Бялявец.

**Я. Янцал**
**Палічна**

---

гранатамі, пісталетамі, кінжаламі, компасамі, кішэннымі ліхтарамі, картамі мясцовасці. Адразу ж пачалі практыкавацца ў кідках кінжала. У Генкі спачатку кінжал біўся аб дрэва або плазам, або ручкай. Хлопцы дужаліся, дэманстравалі прыёмы. Зіна і Аня захапіліся стральбой з пісталета па яблыках на дзічцы. Якраз у разгар такіх заняткаў нам паведамілі, што адпраўленая ў тыл ворага падобная да нашай група была перахоплена «месершмітам» і расстралянa ў паветры. Усе разведчыкі і каманда самалёта загінулі.

Такая вестка ўсім сапсавала настрой. Я нават стаў шкадаваць, што ўзялі Генку. Але было позна што-небудзь перайначваць.

Пад вечар да нас падышоў каржакаваты рыжы лётчык з зоркай Героя Савецкага Саюза на грудзях.

— Здароў, арлы! — прабасіў ён.

— А тут не толькі арлы, — усміхнулася Аня. — Ёсць і «лебедзі», і «сойкі», і «вожыкі», і «зайцы», — назвала яна мянушкі разведчыкаў.

— Лебедзі — гэта цудоўна! — згадзіўся лётчык. — Як настрой? Ляцім!

— А ці давезяцё? — спытаў Зварыка. Яго вочы з трывогай пазіралі на пілота.

— Будзьце ўпэўнены — давязу абавязкова. Я сёе-тое прыдумаў...

У палатку ўвайшоў палкоўнік.

— Пара, таварышы, — сказаў ён. — Пайшлі!

Мы падышлі да самалёта. Каля яго было вылажана дзесяць парашутаў.

— Бярыце, — прапанаваў інструктар. Ён памог правільна надзець парашуты, зашпіліць лямкі.

Неўзабаве падышоў «газік». З яго выйшаў генерал Алёшын.

— Усё гатова, таварыш Шапавалаў? — звярнуўся ён да палкоўніка. Мы ўпершыню пачулі прозвішча свайго непасрэднага кіраўніка.

— Усё гатова, таварыш генерал! — адрапартаваў палкоўнік.

— Месяцы праз два сустрэнемся, — звярнуўся да нас генерал.

— Добра б... — не надта ўпэўнена адказваў за ўсіх капітан Крылатых.

— Глядзіце, каб вас у Кенігсберг не занесла, — пажартаваў генерал, паклаўшы рукі на плечы Ані і Генкі, — вы ж напалову лягчэйшыя за іншых.

— Не занясе, таварыш генерал, будзьце ўпэўнены! — і Генка ўзяў пад казырок, выцягнуўшыся ў струнку.

Селі ў самалёт. Зараўлі маторы. Пачуўся стрэл, вогненнымі пырскамі рассыпалася ў небе сігнальная ракета. Я глянуў на гадзіннік: 22 гадзіна 40 мінут, 26 ліпеня 1944 года. Пад крылом прамільгнула родная зямля і засталася ззаду. Хто з дзесяці зноў убачыць яе?

**(Працяг будзе)**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Kochałem cię" (radz.), „Chleb i róże" (radz.), 21—26.

**Дубіны**
„Człowiek z przeszłością" (radz.), 25—26.

**Нараўка**
„Tata, mama, córka i zięć" (radz.), „Ulica Nadmorska" (radz.), 22—26.

**Нарва**
„Siedem nianiek" (radz.), „Przygoda Krosza" (radz.), 22—26.

**Чыжы**
„Niewysłany list" (radz.), „Tata, mama córka i zięć" (radz.), 22—26.

**Дубічы Царкоўныя**
„Ewakuacja" (radz.), „Gdy kwitną pierwiosnki" (radz.), 22—26.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Браньск**
„Październik" (radz.), 21—22. „Ballada huzarska" (radz.), 23—24. „Kochałem cię" (radz.), 25-26.

**Боцькі**
„O moim przyjacielu" (radz.), „Dzień ostatni, dzień pierwszy" (radz.), 22—26.

**Орля**
„Cierpkie wino" (radz.), „Siedem nianiek" (radz.), 22—26.

**Райск**
„Zmartwychwstanie" (radz.), 22—26.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Kronika jednego dnia" (radz.), „Zdradzona ziemia" (radz.), 21—24.

**Міхалова**
„Pomyłka szpiega" (radz.), 21—22. „Był sobie dziad i baba" (radz.), 23—24. „Cztery dni Wiktora Czernyszewa" (radz.), 25—26.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Nieprzyjaciel u progu" (radz.), 21—22. „Leśna symfonia" (radz.), 23—24. „Zwykła historia" (radz.), 25—26.

**Янаў**
„Szósty lipca" (radz.), 25—26.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Trzy dni Wiktora Czernyszewa" (radz.), 21—22. „Czas rozłąki" (radz.), 23—24 „Tylko jedno życie" (radz.), 25—26.

**Мельнік**
„Twój współczesny" (radz.), 21—22. „Dziewięć dni jednego roku" (radz.), 23—24. „Jutro przestaniesz umierać" (radz.), 25—26.

**Мілейчыцы**
„Kochałem cię" (radz.), 21—22. „Sąd" (radz.), 23—24. „Pomyłka szpiega" (radz.), 25—26.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Nieprzyjaciel u progu" (radz.), „Klęska" (radz.), 22—26.

**Новы Двор**
„Zosia" (radz.), „Człowiek który wątpi" (radz.), 25—26.



**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 6620

З югаслаўскага

# МАГНІТАФОН І КАХАННЕ

Ратка трымаў палец на кнопцы магнітафона і марудзіў.

— Ведаеш, Ольгіца, нейк непрыемна. Атрымліваецца быццам мы падслухоўваем.

— І хай атрымліваецца! Ці ж я не маю права ведаць, аб чым гаворыць мая дачка і яе сябар, з якім яна быццам бы займаецца?

— Чаму «быццам бы»? У верасні яны таксама супольна рыхтаваліся да экзамену і здалі.

— Тады вучыліся, а цяпер не. Я бачу па вачах. Сядзяць і толькі глядзяць адно на адно, як кошкі. Ну, давай, бацька, уключай.

Дыскі закруціліся, папаўзла карычневая стужка, з магнітафона пачулася нейкае шаласценне.

— Што гэта за шамценне? — спытала маці з непакоем.

— Відаць, кнігі гартаюць...

— Ой, наўрад ці гэта кнігі!

— Тады сшыткі, канспекты.

Раптам магнітафон загаварыў прыемным барытонам: «Як жа нам быць далей, Святлана?»

— Гэта ён гаворыць? — спытала маці.

— Ага.

«І сама не ведаю», — зашчабятаў з магнітафона Святланін галасок.

— Даведаешся, дачка, ты ў мяне яшчэ даведаешся! — прыгразіла маці і падсунулася бліжэй да магнітафона.

«Пагавары спачатку з бацькам, — працягваў аксамітны барытон, — каб толькі ён не пярэчыў, а з маці паладзіць — справа простая. Я думаю, твой бацька зразумее. Ён чалавек сучасны, інтэлігентны».

Маці падскочыла на крэсле.

— Ты толькі яго паслухай! Калі інтэлігентны, значыць выдавай замуж дзевятнаццацігадовую дачку? Не пройдзе!..

«Я ўжо гаварыла з бацькам», — прагучаў у адказ Святланін галасок.

— Та-а-ак! А ты маўчыш? — з гневам прашыпела Ольгіца.

«Аднак у прынцыпе ён быў катэгарычна супраць, — працягвала Святлана. — Бацька лічыць, што не трэба жаніцца, не закончыўшы адукацыі. Гэта вельмі перашкаджае заняткам».

Не стрымаўшы, маці крыкнула ў магнітафон:

— Мала таго! Пойдуць дзеці, і нам давядзецца ўтрымліваць не толькі вас, але яшчэ і ўнукаў нянчыць. Ведаем мы гэта!..

Барытон зноў узяў у рукі ініцыятыву:

«А калі пагаварыць з маці? У мяне, Святлана, аб ёй вельмі добрая думка...»

— Начхаць мне на тваю думку! — раззлавалася маці.

«Сам яе твар гаворыць аб высакароднай душы, — гэта натхнёнае стварэнне, выключная натура...» — распіняўся барытон.

Твар маці прасвятлеў.

— Ты чуеш, Ратко, як малады чалавек мяне цэніць?

«Гэта жанчына — увасабленне высокіх пачуццяў, у ёй ёсць штосьці з Шэкспіра», — не сціхаў барытон.

— Слаўны хлопчык... — прашаптала маці.

«Таму, Святлана, трэба пагаварыць з маці. Калі не маеш адвагі адна, пагаворым разам».

Дыск круціўся далей, але гуку не было.

— Ужо ўсё? — спытала маці, быццам шкадуючы, што так хутка кончылася.

— Усё, — сказаў Ратко, закрываючы магнітафон.

— Тваёй думкі я не ведаю, але я... што ж... я згодна. Урэшце і мы пажаніліся ў гэтыя гады, а жывем дай Бог усім. Праўда, Ратко?

«Цяпер-та ты згодна, — падумаў Ратко, — а што было б, калі б я не параіў Владо і Святлане запісаць усю іх размову на плёнку?»

Бане Джурычыч





Вытворчая нарада.

### МОДНЫ МУЖЧЫНА

Аб міні-модзе знае кожны,
Шмат было розных галасоў:
Крытыкавалі асцярожна
І пryглядаліся трывожна
Той новай модзе маладзёжнай.
А я хацеў бы, калі можна,
Кранупь мужчынскіх валасоў.
Бо калі добра прыглянуцца,
І колькі год назад вярнуцца,
Калі бітлесы «панавалі»,
Адны другіх не пазнавалі.
Бо хоць глядзелі мы вачыма,
Не знаолі хлопец, ці дзяўчына.
З такою доўгай «мандалінай»,
Ці з нечасанай «грывай львінай».
А потым вусы і бароды
Апанавалі ўсе народы.
Адным — зусім не пасавалі,
Другім — фасону дадавалі.
Але калі ўжо прынялося,
Няхай бы так і засталося.
Чакаць нам доўга не прышлося...
Бо мода рвецца зноў з застою,
Заве рэкламаю сваёю —
Хадзіці з голай галавою.
І захваляе нам газета,
Што будзе вельмі модна гэта.

Тут хіба ўсе мы будзем згодны,
Хоць нам гаворыць гігіена,
Што гэта чыста і выгодна —
Ды выглядае, як калена.

Л. Танкевіч

### ПАРАЎНАННЕ

Жонка: Вучоныя сцвярджаюць, што ў сярэднага чалавека за дзень нараджаецца некалькі тысяч думак.

Муж: Дарагая, гэта нішто ў параўнанні з сярэдняй жанчынай.

### РАЗМЯНЯЎ

— Ці можаш размяняць мне сто злотых?

— Магу.

— Тады пазыч дваццаць.

### ПАДЛІЧЫЎ

Селянін прыйшоў у горад, каб сфатаграфавацца.

— Колькі возьмеце за адзін здымак? — спытаў ён у фатографа.

— Пяцьдзесят злотых.

— Магу заплаціць толькі 25, бо здымацца буду не ў анфас, а ў профіль.



Без слоў.



— Чаму ўсе глядзяць п'есу праз бінокль?

— Хочуць убачыць сэнс.

### У РЭСТАРАНЕ

Наведвальнік да афіцыянта:

— Дзесьці я вас бачыў.

— Правільна, бачылі. Дзве гадзіны таму назад я прынёсў вам суп...

### ЗДОЛЬНАЯ ЖОНКА

— Мая жонка вельмі здольная, яна магла б працаваць нават аўтаінспектарам.

— Чаму ты так думаеш?

— Бо я толькі яшчэ задумаю выпіць, а яна ўжо гаворыць: «Ад цябе гарэлкаю патыхае».

### З АМЕРЫКАНСКАГА

Васьмігадовы хлопчык глядзіць па тэлевізару пахаванне памёршага пасля цяжкай хваробы былога прэзідэнта ЗША Эйзенхаўэра і пытае ў бацькі:

— Тата, а хто забіў гэтага?

### ДАМОВІЛІСЯ

Муж: Ведаеш, урачы пасадзілі Чукулёва на дыэту.

Жонка: Зараз жа трэба запрасіць яго ў госці.

### У МАГАЗІНЕ

— У вас гэтая рыба жывая?

— Жывая.

— А яна свежая?



Самакрытыка.

### АБРАЖАНЫ ЦЭП

— Не супярэчу, — праскрыпеў Цэп. — Камбайн — цудоўная машына. І косіць, ведаеце, і нават малаціць умее. Але ён не ўмее націраць мазалі на людскіх руках! За што ж яго шанаваць?

О. Вусік

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Люсі Каліноўскай з Каралёвага Маста, Зіны Пракапюк і Олі Пасечнік з беларускага ліцэя ў Бельску, Марысі з Т. Е. у Бельску і Яўгені Гарлоўскай з Т.М. у Беластоку змяшчаем песню п.з.

## „Tak bardzo się starałem”



Kto za tobą w szkole ganiał,
Do piórnika żaby wkładał.
Kto, no powiedz, kto?
Kto na ławce wyciął serce,
I podpisał: „głupiej Elce”,
Kto, no powiedz, kto?

Refren:

Tak bardzo się starałem,
A ty teraz nie chcesz mnie,
Dla ciebie tak cierpiałem,
Powiedz mi, dlaczego nie chcesz mnie?

Kto dla ciebie nosił brodę,
Spodnie w kwiatki włożył modne.
Kto, no powiedz, kto.
Kto Tuwima wiersze przepisał,
Jako własne tobie wysłał,
Kto, no powiedz, kto?

Ref.:

Tak bardzo... itd.

Ja dla ciebie byłem gotów
Kilo wiśni zjeść z pestkami,
Ja, tak, tylko ja!
Teraz kiedy Cię spotykam
Mówisz mi że się nie znamy,
Czy to ładnie tak?

### ПАЦВЕРДЖАННЕ

— Гэта праўда, што вы агрэлі пацярпеўшага па вуху? — пытаецца суддзя.

— Што вы, гэтага ў мяне і ў думках не было!

— Ён хлусіць! — адзываецца пацярпеўшы. — Ён агрэў мяне па вуху!

— Маўчы, а то яшчэ раз агрэю...

### Галаваломка




**Кожную з гэтых чатырох фігур паспрабуйце разрэзаць на дзве часткі, а затым злажыце з іх чатыры квадраты. Адказ на заданне з папярэдняга нумара: 20.**



## Курёзы

### Завешчана ў... 1891 годзе

Амерыканскі касманаўт Нейл Армстронг, ступаючы 21 ліпеня 1969 года на месячную паверхню, нават не меркаваў, што першы крок па Месяцу зрабіў яго наследнікам багацця, завешчанага ў Францыі ў 1891 годзе.

Анна-Эмілія Гюзман, удава багатага прамыслоўца і вялікі аматар прыгодніцкіх раманаў французскага пісьменніка Жуля Верна, завяшчала ўсё сваё багацце, якое складала 100.000 франкаў, Акадэміі навук Францыі. Згодна з апошнім распараджэннем багатай удавы, гэтыя грошы Акадэмія павінна перадаць «чалавеку, які калі-небудзь першым ступіць нагой на любое нябеснае цела, выключаючы планету Марс». Мяркуючы, што набожная мадам Гюзман была непрыхільнай да бога вайны і да ўсяго звязанага з яго імем.

Прайшло крыху больш паўстагоддзя, і прыгоды Жуля Верна сталі рэальнасцю. За гэты ж час капіталістычную фінансавую сістэму не раз узрушалі цяжкія крызісы. Тое, што ў 1891 годзе складала багацце ўдавы прамыслоўца, цяпер, улічваючы ўсе дэвальвацыі, раўняецца ўсяго 981 франку. Французская газета «Фігаро» заўважыла нарэшце, што Н. Армстронг на гэту суму можа купіць сабе ў лепшым выпадку толькі «добрае зімовае паліто».

### Памыляемся

Вальтэр аднойчы пахваліў Гелера. А потым яму сказалі, што Гелер вельмі дрэнна гаварыў пра яго кніжкі. Вальтэр з усмешкай адказаў:

— Відаць, мы памыляемся абодва.




Чарвяк, поўзаючы на жываце, запаўзае часам туды, куды некаторыя не могуць залезці, маючы нават рукі.